# Іскры Ільіча




№ 4
1934 г.

# Іскры Ільіча

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ДЗЕЦЕЙ МАЛОДШАГА УЗРОСТУ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ

КРАСАВІК 1934 № 4





# ПЕРШАЕ МАЯ

## У НАС

За радам рад,
За радам рад!
Шагай весялей,
Першамайскі атрад!
Агністае сонейка
Ярка гарыць,
Над кожнай калонаю
Сцяг зіхаціць.

І кожная песня
Пяе ў гэты дзень

Аб тым, што завод
За заводам расце,
Што рэльсы
На новых чыгунках гудуць,
Што коні сталёвыя
Землю аруць.

Што вольна святкуе
Рабочы наш край
Вялікае свята сваё —
Першамай

## У ІХ

А нашых таварышаў
За рубяжом
Сягоння сустрэнуць
Буржуі агнём.
Ды цвёрда шагае

Рабочы атрад
І моцна сціскае
У руках свой плакат:
**У бой з капіталам,
Пролетарыят!**






Апавяданне Кісялёва
Малюнкі Басава

Змейкаю бяжыць няроўная сцежачка ў глыбіню Арлоўскага беразняка. Рэдка хто ведае гэту сцежку. Толькі Грышка вывучыў яе, як свае пяць пальцаў.

Не раз ён з фабрычнай казармы прыбягаў сюды, на зялёную траўку, пагуляць сярод стогадовых ліп і маладога дубняку з таварышамі-аднагодкамі.

Сёння раніцаю Грышка чуў ад бацькі, што па гэтай-жа сцежцы заўтра бацька пойдзе з Паўлам-малатабойцам на маёўку.

Што такое маёўка,—Грышка ведаў. Бацька часта ўспамінаў маёўкі.

Але Грышку хацелася і самому пабыць на маёўцы.

— Трэба пагаварыць з рабятамі, яны можа пойдуць,—парашыў Грышка і, адзеўшы шапку, выбег на шырокі двор.

Моцны свіст раздаўся ў паветры. Гэта было ў рабят умоўным знакам: „Выходзь, значыць, справа ёсць“.

Услед за свістам адразу адкрыліся дзве фортачкі і паказаліся кучаравыя галоўкі. Яны спыталіся:

— Ты чаго?

— Справа ёсць! — дзелавіта крыкнуў Грышка.

Мішка і Васька, Грышкавы таварышы, зараз-жа прыбеглі да яго. Грышка чакаў іх на дварэ.

— Ты чаго?—спытаў Мішка.

— Ціха, не крычы,—сказаў яму Грышка,—хадзем куды-небудзь далей, а то падслухаць могуць.

— Хадзем за казармы,—прапанаваў Васька.

Рабята, аглядваючыся, скоранька зніклі за домам.

— Ну, кажы, якія ў цябе справы? — нецярпліва тармасілі Грышку таварышы.

— Рабята! Вы ведаеце, што заўтра маёўка?

— Ведаем. Я ў бацькі прасіўся, а ён не бярэ мяне. „Ты, кажа, яшчэ малы“—паскардзіўся Васька.

— У тым-та і справа,—гаварыў Грышка.— Нам трэба самім пайсці.

— Усёроўна ўбачаць — прагоняць,— недаверліва сказаў Мішка.

— Не прагоняць. Мы схаваемся за кустамі, яны і не ўбачаць. Ну, што—згодны?

— Добра,—згадзіліся Мішка і Васька.

Даносіліся да рабят словы песні.

Рабочыя падышлі ўжо блізка да рабят, і яны лёгка чыталі, што было напісана на сцягах.

„Няхай жыве 8-гадзінны рабочы



дзень,“ — красаваўся вышыты золатам на сцягу надпіс.

На другім Васька прачытаў:

„Мы патрабуем свабоду сходаў, слова і друку“.

Але самы галоўны сцяг неслі наперадзе, і на ім было напісана:

„У гэты дзень мы працягваем руку працоўным усяго свету“.

Калі дэманстрацыя схавалася ў лесе, рабята кінуліся яе даганяць.

— Ну, значыць, заўтра, у 9 гадзін раніцы збіраемся,—сказаў Грышка.

* * *

У ясны дзень 1 мая раніцай рабята ішлі завулкамі Данілаўкі ў Арлоўскі беразняк.

А ў гэты час з фабрычных казармаў па аднаму, па двух выходзілі рабочыя, нібы так сабе, на прагулку, і смела ішлі ўсе да Арлоўскага беразняка.

За заставаю рабочыя пайшлі з песнямі; у паветры ўзвіліся чырвоныя сцягі.

„Смела, таварышы, ў ногу“...

Спыніліся яны толькі тады, калі падбеглі да рабочых, што размясціліся на палянцы.

Рабята бачылі, як адзін з рабочых суседняга завода гаварыў, стоячы ў кругу:

— Таварышы, у гэты дзень не толькі мы, але і ў другіх краінах рабочыя святкуюць наша рабочае свята!

Доўга гаварыў,—рабята заслухаліся. Раптам нехта крыкнуў:

— Казакі едуць!

— Ратуйце сцягі!..

Усе ўсхапіліся. Павал-малатабоец кінуўся к сцягам, але наляцеўшы віхром казак узмахнуў шабляю, і Павал, падаючы з адсечаным вухам, выпусціў сцяг.

Казак паімчаўся далей, а рабята, выскачыўшы з-за кустоў, схапілі самы галоўны сцяг і кінуліся ў гушчар беразняка.

Сэрца ў рабят білася моцна.

— Вось, не дарэмна мы сюды прыйшлі,— гаварыў Грышка.—Усё-такі не далі праклятым казакам пасекчы сцяг.

* * *

Бацька Грышкаў прыйшоў дахаты позна ўночы.

Грышка бачыў, як маці, праклінаючы кагосці, адмочвала цёплаю вадою прыліпшую скрываўленую кашулю ў бацькі на спіне.

Грышка са злосцю сціснуў зубы.

— Ну, пачакай-жа, калі вырасту, я вам пакажу, як біць бізунамі ды секчы шаблямі рабочых!

Грышка хацеў чым-небудзь пацешыць бацьку і, асцярожна падыходзячы, сказаў:

— Тата, а сцяг мы выратавалі.

— Які сцяг?—здзіўлена спытаў бацька.

— Мы яго на маёўцы ад казакаў выратавалі,—цвёрда сказаў Грышка.

— Вы былі на маёўцы? — спалохаўся бацька.

— Былі і выратавалі самы вялікі сцяг...

Назаўтра ўвесь завод ведаў, што рабята выратавалі на маёўцы сцяг раённага камітэта партыі.

# СЁННЯ УСТАЛІ МЫ РАНА

Сёння усталі мы рана,
З сонцам усе на нагах.
Пробуем бой барабана,
Ўзялі чырвоны свой сцяг.

Горад вясёлы, прыбраны,
І дзе ні глянеш—народ.
Пыхкае дымам ад ранку
Аўтамабіль ля варот.

Гэта за намі—мы знаем—
Аўтамабіль прыляцеў.
Сёння-ж дзень Першага мая—
Свята працоўных людзей.




# Бура на граніцы

Апавяданне В. Каваля
Малюнкі А. Волкава

## 1.

Уночы на граніцы паднялася бура.

Пагранічнік з заражанай вінтоўкай у руках змяніў на пасту свайго таварыша.

— Ух, якая шалёная бура, — сказаў ён у цемень чорнай ночы. Сказаў і прыслухаўся: ён умеў лавіць шорах драпежнага звера і асцярожныя, звярыныя шагі ворага.

Але пагранічнік нічога не пачуў. Гудзела бура, спяваў і гнуўся лес. Пагранічніку стала сумна і ён пачаў ціханька, без слоў, спяваць песенку і думаць аб тым, што скора сціхне бура і прыдзе яркая, сіняя раніца. .

Але яшчэ больш дзіка завыла бура. Паліў часты буйны дождж. Агнявая маланка перарэзала чорнае неба. Асвяціла на адзін кароткі момант рэдкі лес, домікі і шырокае поле. І грымнуў такі гром, што пагранічніку здалося, нібы зямля, як бомба, разарвалася на дзве часткі.—Адна на тым баку, другая на гэтым баку граніцы. Усё навокал—і лес, і поле—самлелі ў сполаху.

Адзін пагранічнік не баяўся ні буры, ні грому, ні смерці. Ён быў малады, дужы і смелы. Ён нічога не баяўся таму, што ён стаяў на пасту і вартаваў граніцы Совецкай краіны.

А ў гэты час, калі на граніцы стала ціха-ціха, з таго боку выбухнуў раскацісты стрэл. Пагранічнік адным махам скочыў на ўскраіну лесу. Шумелі кусты, бег чалавек, прыгінаючыся чуць не да зямлі. Чалавек крыкнуў і паваліўся на спіну...

Мігнула маланка і стала светла, як удзень. Пагранічнік нагнуўся і ўбачыў збялелы твар хлапчука. А хлапчук на адзін кароткі міг шырока расплюшчанымі вачыма злавіў во-

стры позірк, шырокі дабрадушны твар пагранічніка і зялёны верх яго шапкі.

— Не трэба! Не трэба!—папрасіў хлапчук і адразу страціў прытомнасць.

Ён быў ранены ў плячо. Пагранічнік даў сігнал. Прыбеглі яшчэ двое і аднеслі хлапчука ў заставу.

— Жыў, ці не? — заклапочана спытаў адзін, а другі прыслухаўся да сэрца і адказаў:

— Жыў...—і сярдзіта, моцна вылаяўшыся, дадаў:—У дзяцей страляюць... А-ах ты!..

2.

Адну ноч і адзін дзень ляжаў хлапчук непрытомным. Балела плячо і ён не мог паварушыць рукамі.

Яркі сонечны прамень бегаў па яго худым твары. Першы раз ён расплюшчыў вялікія блакітныя вочы і вельмі здзівіўся:

— Дзе я?—ціха прашаптаў ён асмяглымі губамі.

Кругом цішыня і непрывычныя белыя сцены. Нехта ў белым, як зіма, халаце, пагладзіў яго па галаве. Хлапчук уздрыгануўся і закрычаў:

— Не трэба! Не трэба! За што?.. Лавіце яго... Пусці...

— Не бойся, — адказаў ціхі голас у белым халаце.—Ты ў нас... Спі... Не варушыся...

І хлапчук зноў заснуў. А перад ім сядзела жанчына ў белым, як зіма, халаце і думала: „Хто гэты хлапчук і адкуль ён?“.

Хлапчук спаў неспакойна. Звалі яго Броня. Уцякаў ён адтуль, з таго боку граніцы. Снілася яму шырокае сіняе мора без канца-краю і берагоў. І стала мора — не мора, а натоўпы людзей, шумныя, вялікія. Ідуць, тупаюць нагамі, грымяць. І чырвоныя сцягі мігцяць, як маланкі... І чырвоныя гальштукі на шыі... І музыка грае... Ідуць, ідуць, ідуць і спяваюць, а песня ў іх, як бура і гром.

... Чуецца гром і стрэлы, а мора сярдзіта пеніцца, бушуе. Людзі, як хвалі, разбіваюцца аб каменны бераг.

Броню страшна. Ён уцякае, а за ім гоняцца і жалезнымі пальцамі сціскаюць за плячо.

— Ай, за што? — крыкнуў скрозь сон Броня.—Пусці, пракляты паліцыянт!

Са спалоханымі вачыма Броня ўзняўся на ложку, убачыў перад сабою шырокі дабрадушны твар пагранічніка. Адчуў ласкавыя жаночыя рукі на сваёй галаве, ціха ўздыхнуў.



3.

— Ляжы, не ўставай, — сказала яму жанчына,—ты крычаў скрозь сон...

Броня паглядзеў на сваё перавязанае плячо і, запыхаўшыся, загаварыў:

— За мною гналіся паліцыянты. Я ўцякаў полем і лесам. Я два дні хаваўся... пакуль трапіў да вас... Пакіньце мяне тут.

Жанчына папраўляла яму падушку. А дужы пагранічнік з дабрадушным тварам ласкава глядзеў на яго.

— Пакіньце мяне тут... У мяне не засталося там ні бацькі, ні маткі. У мяне цяпер няма радзімы... Мой бацька памёр у турме, а маці — загінула на дэманстрацыі... У нас на фабрыцы была забастоўка. Паліцыянты стралялі ў рабочых... І я ішоў на дэманстрацыю.



Твар пагранічніка ўсё хмурнеў, а Броня ўсё расказваў, як ён уцякаў ад паліцыянтаў па вуліцах прыгранічнага гарадка, а за ім гналіся. І перад вачыма яго мільгалі тупыя аскаленыя морды і бліскучыя, праклятыя каскі паліцыянтаў...

Раптам Броня ўспомніў, дастаў з-за пазухі пакамечаны ліст і аддаў яго пагранічніку.

Пагранічнік стаў уважліва чытаць і твар яго ўсё больш праясняўся.

Ліст пісалі яму, Броню, піонеры. Яны жылі недалёка ад граніцы, у суседнім гарадку. Пагранічнік ведаў іх, а Броня ніколі не бачыў іх і яны ніколі не бачылі Броню. Але гэта напэўна былі слаўныя рабята з чырвонымі гальштукамі на шыі...

— Я хачу жыць так, як жывуць яны. Яны пішуць, што мы абавязкова спаткаемся... калі не будзе граніц, а будуць на зямлі Советы...

Пагранічнік дачытаў ліст і кіўнуў галавою, нібы сказаў: „Правільна".

— Я папрашу нашага начальніка, каб ён пакінуў цябе...

Тады Броня ўстаў з ложка і павольна ступіў да акна.

Акно было асветлена яркім сонцам. А за акном відаць была ўскраіна лесу, новыя домікі, у якіх жылі пагранічнікі і вартавалі, каб наша граніца заўсёды была на замку ад ворагаў.

На чырвона-зялёным слупе было напісана:

„Комунізм змяце граніцы".

І шырокае, шырокае зялёнае поле...

Броня ў першы раз усміхнуўся і спытаў у пагранічніка:

— А ці ўбачу я тых піонераў, што пісалі мне аб сваёй школе?

— Ну, ясна,—сказаў пагранічнік.—Скора ўбачыш. Толькі няхай загоіцца рана.



Быхаўская Фіра.

# Юныя таланты



Салавейчык Блюма.

Многа здольных дзяцей рабочых, служачых у капіталістычных краінах не маюць магчымасці навучацца музыцы, спевам. Там нават вядомыя музыкі, спевакі, мастакі жывуць без работы, без кавалка хлеба.

Толькі ў совецкай краіне дзеці працоўных маюць усе магчымасці развіваць свае здольнасці, навучацца таму, што іх цікавіць.

Вялікі правадыр працоўных Владзімір Ільіч Ленін любіў дзяцей, многа аддаваў ім увагі. Ён казаў: „Дзеці—наша будучыня“.

Комуністычная партыя і совецкая ўлада выконваюць наказ правадыра—уважліва клапоцяцца аб дзецях.

Вось БЫХАЎСКАЯ ФІРА. Яна з малых гадоў цікавіцца музыкай, хацела навучыцца іграць на віаланчэлі (вялікая такая скрыпка).

Калі ФІРА падрасла, бацька купіў ёй віаланчэль. Фіра пачала вучыцца.

Цяпер Фіры 13 год. Яна вучыцца ў музычным тэхнікуме на другім курсе і ў 7 групе 5 ФЗД. З'яўляецца лепшай ударніцай вучобы. У мінулым годзе на Менскай гарадской алімпіядзе самадзейнага мастацтва Фіра атрымала прэмію.

Многа розных музычных рэчаў навучылася іграць Фіра.

— Будзе з яе толк. Здольная дзяўчына,—гавораць пра Фіру выкладчыкі музычнага тэхнікума.

САЛАВЕЙЧЫК БЛЮМА, піонерка базы „Большэвік“, вучыцца на другім курсе ў музычнай школе.

Яшчэ дома навучылася яна іграць на мандаліне „Турэцкі марш“ і другія музычныя рэчы.

Яна таксама атрымала прэмію на гарадской алімпіядзе. Цяпер Блюма вучыцца іграць на віаланчэлі.

БАРЫС БЕНЕНСОН—скрыпач. З малых гадоў іграе на скрыпцы. Вучыцца ў музычнай школе на 4 курсе і ў 6 групе 5 ФЗД.

Барысу 14 год. З цікавасцю слухаеш, як плаўна і выразна грае ён на сваёй скрыпцы. Талантлівы расце з яго скрыпач.



Так жывуць, працуюць і вучацца юныя таланты ў краіне Советаў.

Сотні і тысячы талантных рабят, лепшых ударнікаў вучобы, у нашай вялікай совецкай краіне авалодваюць тэхнікай музычнай справы.

АЛ. ГАРБАЧЭНКА.

# Брацікі



Верш А. БАРТО
Малюнкі К. ГЕДДА

I.

Эх! У чорненькага братца
Валасочкі не лажацца—
Завіваюцца ў калечкі,
Быццам воўна у авечкі!
Вочкі-ж чорныя—
Непакорныя!





Ён нагамі ўсё тупоча,
Ён пасвойму ўсё лапоча:
„Гілі-Мілі
Га!“

* * *

Эх! У жоўтага брацёнка,
Касавокага хлапчонка,
Валаскі тырчаць, як голкі
У зялёненькае ёлкі.
Ён віхрасценькі,
Ён скуласценькі.
Ён нагамі ўсё тупоча,
Ён пасвойму ўсё лапоча:
„Чынгэ-Лінгэ
Чэн!“

* * *

Трэці брат смуглявы.
Жартаўлівы, жвавы.
І як вугалёчкі
Чорненькія вочкі.
Ён хлапчынка складны
Светлашакаладны.
Ён нагамі ўсё тупоча,
Ён пасвойму ўсё лапоча:
„Ківа-Ківа
Шва!“

* * *

А у белага хлапчонкі
Галасок вясёлы, звонкі,
Валаскі ільняныя,
Шчочанькі румяныя!

Пасваволіць белы брат,
Як і чорненькія, рад.
Ён нагамі ўсё тупоча,
Ён пасвойму ўсё лапоча:
„Ма-Ма!
Ма-Ма!
Ма!“

II.

Сыну чорненькаму маці
Стала песенкі спяваці:
„Ой-ла!“
Надыходзіць ночка,
Пакладу сыночка,
Ой-ла!
Дома я адна-сама,
Дома татачкі няма,
Татка вернецца без сіл,
Бо ўвесь дзень цюкі насіў!
Ой-ла!.
Буду напяваць я:
„Падрастай, сыночак!
У цябе на свеце
Не адзін браточак.
Дзе бацькі не змогуць,
Там сынам пад сілу,
Спі, мой чарнавокі,
Мой саколік мілы!“.

* * *

Сыну жоўценькаму маці
Стала песенку спяваці:
„Спі, мой сын,
Спі, Ю-Дзын!







Цэлы дзень я ткала,
Пот крывавы ліў,
Але мне за працу
Пан не заплаціў!“
Буду напяваць я:
„Падрастай, сыночак!
У цябе на свеце
Не адзін браточак.
Будзем разам з імі
У агні і дыме
Весці побач бой...
Спі, мой сын,
Мой Ю-Дзын,
Сакалёнак мой!“

* * *

Сыну смугленькаму маці
Стала песенку спяваці:
„Ай-я!
Ціха, спі, засні, сынок!
Татка твой нядаўна лёг.
Ай-я!
Дай яму перадыхнуць—
Заўтра трэба спіну гнуць.
На палях, гарах крутых
Не адзін загінуў з іх.
Ай-я!
Ім ні на хвіліну
Не даюць спачыну“.
Буду напяваць я:
„Падрастай, сыночак!
У цябе-ж на свеце
Не адзін браточак.
Дзе бацькі не змогуць,
Там сынам пад сілу.
Спі, мой сакалёнак,
Мой галчонак мілы!

* * *

Сыну беленькаму маці
Стала песенку спяваці:
„Баю-баінькі, сынок!
Павярніся на бачок.
Баю-баінькі, сынок!
Баю-баю-баю-бай!
Заўтра свята—Першы Май.
Праміне за годам год,
Пойдзеш з таткам на завод.
Будзеш разам працаваць
І комуну будаваць!
Не дарэмна-ж бацька твой
Вёў з панамі жорсткі бой,
Для таго, каб ты, сынок,
Працаваць тут вольна мог.
Буду напяваць я:
„Баінькі-баю!
Не забудзь браточкаў
У чужым краю.
Можа разам з імі,
У агні і ў дыме,
Пойдзеш смела ў бой...
Спі-ж, расці,
Сыночак мой!“

*Пераклад А. ЗІМІОНКА*







# Лабакайс трэцнекс*)

Нарыс А. Пальчэўскага

Зарысоўкі Я. Тупіцы

Трошкі панурая Зента Піткевіч павольна апавядае:

— Мама мая працуе на фабрыцы. Раніцою яна ідзе на работу, а мы ўтраіх у школу. Вечарам зноў усе збіраемся дома. Мама абедае на фабрыцы, а мы ў школе. Чытаць-жа мая мама не вельмі ўмее—горш за мяне, а я яшчэ толькі ў 3-й групе.

Але і такая навука цяжка далася Зенцінай маме. Яе школьныя гады прайшлі у царскі час. А тады вучыцца было не лёгка: за навучанне плаціць трэба было, ды і вучылі не на роднай мове.

Цяпер, пры совецкай уладзе, зусім іначай: усе дзеці працоўных вучацца ў школах на сваёй роднай мове. Зента—латышка. Яна вучыцца ў латышскай школе.

— Мы дома гаворым па латышску, і ў школе мне ўсё зразумела,—расказвае Зента.

— У 3 групе Зента—лепшая ўдарніца, — кажа пра яе настаўніца.



Зента Піткевіч.

За добрую вучобу Зента тры разы прэміравана. Яна не толькі сама добра вучыцца, але і дапамагае слабейшым.

Летась у дзень Окцябрскай рэволюцыі Зенту перадалі з окцябрат у піонеры. Галоўная задача піонера-школьніка, гэта—вучыцца на „добра". І Зента з гонарам выконвае гэтую задачу. Яна кажа:

— Пакуль не падрыхтую заданняў, дык не іду гуляць або бегаць без патрэбы па вуліцы.

А вось окцябронак Круміна Вільма. Гэта адна з 28 комунараў-вучняў. Пра сваё цяперашняе жыццё Вільма гаворыць:

— У комуне мне добра. Нас тут кормяць, адзяюць, даюць абутак. Улетку мы працуем на гародзе, а зімою вучымся.

Вільма—сірата. Але Вільма шчаслівая, бо яна жыве ў Совецкім Саюзе. Не так далёка ад Віцебска, на другім баку совецкай мяжы, тысячы дзя-

*) Лепшыя ўдарнікі.

цей, такіх як Вільма, ходзяць па вуліцах беспрытульнымі...

Вільме толькі 9 год, а яна ўжо сёлета



Вільма Круміна.

канчае другую групу і канчае як лепшая ўдарніца. І як лепшую вучаніцу, яе прэміравалі.

Окцябронак Страздынь Пятрусь, таксама вучань 2 групы, адзін раз не падрыхтаваў урокаў і атрымаў „нездавальняюча". Чырванеючы, ён расказвае, як гэта здарылася з ім, ударнікам вучобы:

— Мне ўвесь вечар тады балела галава, дык я не мог падрыхтаваць урокаў. Але ўсё-такі назаўтра ў школу пайшоў, бо за ўвесь час у мяне не было прагулаў... А ў школе настаўніца выклікала мяне і я не адказаў. Гэта было толькі адзін раз, а то я заўсёды вывучаю ўрокі добра. Я стараюся вучыцца...

— Так, Пятрусь самы старанны вучань у групе, самы лепшы ўдарнік,—хваліць яго настаўніца.



Пятрусь Страздынь.

Пятрусь часта дапамагае сваім таварышам. Вось, напрыклад, Берзынь Янусь слабавата развязвае задачкі, і Страздынь з ахвотаю паказвае яму. Ён хоча, каб усе вучыліся добра, былі прыкладнымі ў дысцыпліне.

Навучальны год канчаецца. Перад кожным вучнем цяпер адна задача — паспяхова перайсці ў наступную групу.

— Мы акцябратыўдарнікі павінны першыя паказваць прыклад вучобы, — кажа Пятрусь.

Гэта толькі трое лепшых ударнікаў латышскай сямігодкі з тых дзесяткаў, якія ёсць у школе. Гэта толькі адзінкі з тых тысяч і мільёнаў барацьбітоў за лепшую вучобу, якія ёсць у совецкіх школах.

г. Віцебск.



„Бейгсім мацыбас уз лабі" гэта значыць: „Скончым вучобу на добра" — піша лепшы ўдарнік Данцыт Іван. Яму дыктуе настаўніца Букхольд.

Якуб Колас




# Міхасёвы прыгоды

Малюнкі В. Тіхановіча

*ПРАЦЯГ**)

VIII.

Адышлі суніцы,
Выбралі чарніцы,
Перастала рыбка
Брацца на кручок.
Ідуць у брусніцы
Дзеўкі, маладзіцы,
А Міхася цягне
Бор і хвайнячок.
Дарыць бор сасновы
Падарунак новы:
Сталі паяўляцца
Па лясах грыбы.
Ды ці знойдзеш словы
Апісаць іх сховы—
Хвойнікі, палянкі,
Беразняк, дубы?
Апісаць дарожкі,
Дзе хадзілі ножкі
Грыбнікаў заўзятых,
Ну, як наш Міхась.
Пачакайце трошкі—
Абмінём парожкі,
Грэблі, раўчавіны
І пяскі і гразь.
Эх, як слаўна ў лесе
У зялёнай стрэсе,
Дзе сукі-галіны
Вывялі шатры!
У шатры-навесе
Вы нагледзіцеся
Як жывуць, якія
Ёсць там жыхары...

Ды ўжо лепш у часе
Вочкамі Міхася
Паглядзець на з'явы,
Што даюць лясы.
Слухай, Валік, Тася,
Ты, Алёнка, Бася...
З кошыкам Міхась наш
Ідзе ў верасы.
Не адзін ён—з татам,
Дружба іх заўзята:
Аднаму-ж маломy
Лёгка заблудзіць.
Ды і страшнавата,
А лес так зацята
Цёмнаю гушчэчай
На цябе глядзіць!
Грае чырвань на усходзе,
А Міхась ужо ў паходзе.
У руках, кашолка, нож—
Без нажа грыбнік не гож.
Разгарнуўся ва ўсе бокі
На узгорках лес высокі,
І такі прыемны пах:
Як нюхнеш, дык скажаш: „ах!“
А імхі—зялёны, белы—
Рассцілаюць коўрык цэлы.
Ускрай сцежак—верасок,
На дарожцы—бель-пясок.
Хто не пройдзе па трапіне,
На пясочку след пакіне.
А чые-ж гэта сляды?
Хто ішоў тут і куды?
Ды якія капцюрышчы!
Гэта, пэўна, след ваўчышчы!
— Тата, глянь, зірні сюды:
Ці не воўчыя сляды?—
Міхасёк сляды чытае.

*) Пачатак гл. у № 1, 2, 3.

Што не ясна, запытае.
Паглядзелі—так і ёсць:
Воўк ішоў, незваны госць!
І Міхасю страх цікава,
Ен ідзе, бяжыць рухава.
Галасок яго звініць—
Ёсць аб чым пагаманіць!
Лес патроху ажывае
Ды гаворыць, ды спявае.
Свішча тонка арабок,
Там варкуе галубок.
Цецярук, як пад зямлёю,
Дзесь такуе за гарою.
А дзятлы, як дактары,
Бор выслухваюць стары,
Ды, прысеўшы на галіне,
Б'юць насамі па хваіне.
А вунь там, на стромкай елі,
Дрозд выводзіць свае трэлі,
Сойкі голасна крычаць,
Ястрабы ў гняздзе пішчаць,
А там нейкі абармот
Нібы дражніць: „Дод! Дод! Дод!"





Выйшлі на поле
Каля Загібелькі.
Рэдка пабачыш
Гэткай зямелькі:
Суха і чыста,
Вымецена нібы.
Вёска на горцы,
Дрэвы ўскрай сядзібы.
Важна стаяць там
Дзядзькі-азяроды,
Дбала вартуюць
Гумны, гароды.
Буслы на хвоях
Маюць свой будынак,
Вуллі, калоды
Там знайшлі прыпынак.
Хвойнік навокал
Ды густы, як шчотка.
Бор і пралесак
Між ім, як бародка.
А пералескі
Разам з хвайнікамі
Страх як багаты—
Чым? Баравікамі!
Шапкі іх чорны,
Самі яны крэпкі:
Возьмеш у рукі—
Гіпсавыя злепкі!

*(Працяг будзе).*



# Шарапоезд

Ад Масквы да Ленінграда 600 кіламетраў. Пехатой такую дарогу можна прайсці толькі за сто дваццаць гадзін,—гэта каля пяці сутак. Пры тым, тут не ўлічаны адпачынак, патрэбны на сон і яду. Усяго-ж, каб прайсці пехатой такую дарогу, патрэбна патраціць не менш сутак дзесяць.

На звычайным аўтамабілі, таксама без перапынкаў, можна заехаць у Ленінград за гадзін дванаццаць.

Кур'ерскі поезд „Красная Стрела", які ходзіць між Масквой і Ленінградам, пройдзе гэту дарогу за дзевяць гадзін.

Калі-б між Масквой і Ленінградам быў пракладзены водны шлях, дык самая быстрая ў свеце маторная лодка прайшла-б гэты шлях за тры гадзіны.

Самы быстры гоначны аўтамабіль прыйшоў-бы ў Ленінград праз паўтары гадзіны. А самы быстры самалёт — праз 55 хвілін.

Але трэба сказаць, што маторная лодка, гоначны аўтамабіль і самалёт з такой скорасцю плылі, ехалі і ляцелі толькі на невялікіх дарогах і ў рэдкіх выпадках.

А вось на верхнім малюнку цікавы поезд нашага савецкага вынаходцы ЯРМАЛЬЧУКА. Гэты поезд мае заместа колаў шары і ідзе не па рэльсах, а па спецыяльным жолабе-латку. Такі шарапоезд можа ісці з хуткасцю 300 кіламетраў у гадзіну і прыйдзе з Масквы ў Ленінград усяго за дзве гадзіны.

Такога шарапоезда яшчэ няма. Але ёсць ужо вопытны поезд Ярмальчука, і ёсць нават 3-х кіламетравая дарога, па якой ходзіць вопытны шарапоезд. Дарога гэта—просты драўляны жолаб. У зменшаных вопытных вагонах па гэтым жолабе можна ехаць як у сапраўдным поездзе і нават хутка—70 кіламетраў у гадзіну.

Скора каля Масквы будзе пабудавана першая ўжо сапраўдная дарога для шарапоезда, а з часам такія дарогі будуць пракладзены і па ўсіх вялізарных прасторах нашага Савецкага Саюза.



# БРУКАРЫ

Верш Л. Квітко
Малюнкі А. Шахрая

Зразу рыюць
Брукары,
Рыюць землю
Да зары.

Потым камень
Б'юць і б'юць,
Пліткі роўныя
Бяруць.

Чэшуць гладка,
Малаткамі
І кладуць,
Кладуць радкамі

Дужыя ў іх рукі,
Малаткі са сталі,
Дружна ўсе над
брукам
Песні заспявалі:
Цюк-ток-ток,
Цюк-тук-тук,
Мы брукуем
Роўны брук.

Пойдзе брук наш,
Пойдзе скора,
Пакуль прыдзе
Ў іншы горад.
Брук наш доўгі,
Аб'яднай
Наш вялікі
Вольны край!

Ты ідзеш—бяжыш
ўсё далей
Кіламетрамі няспынна
Па нязмераных тых далях
Нашай вольнае краіны.

Ты бяжыш і кожны час
У дарогу клічаш нас.

Цюк-тук-тук,
Цюк-тук-так,
Піонеры!
Цвёрда шаг.

Што мне лютыя маровы,
Што мне ясны белы снег?
Зараз нават окцябронак
Не заблудзіцца на мне.

Цюк-тук-так,
Цюк-тук-так!
Цвёрда шаг!
Цвёрда шаг!

*Пераклад з яўрэйскай мовы.*



# У цёплых водах марэй



Лятучая еўрапейка.

Шуміць і хвалюецца шырокае мора. Яно нібы кіпіць, пакрываецца пенай, б'ецца хвалямі аб скалы. На яго няроўнай паверхні там-сям, як чайка крылом, мільгане сваім парусам лодка, потым знікне за грэбнямі хваль, закружыцца на месцы, зноў з'явіцца і стралой панясецца ў далячынь.

Што гэта за лодка? Чаго яна кідаецца ў гэту кіпучую пучыну?



Рыба-шабля.

Гэта рыбацкая лодка. Яна выйшла ў мора лавіць рыбу.

А якія тут рыбы? Ці шмат тут іх? Вельмі шмат, і ўсякіх рыб. Адны ляжаць на дне, зарыўшыся ў іл, другія, як птушкі, ляцяць над бурлівай вадой; адны з палец велічынёй, другія з добрае бервяно; адны, як гадзюкі — доўгія і тонкія, а другія кароткія, круглыя, падобныя на гаршчок.



Лягва-рыбалоў.

Вось над морам паднялася стая рыб. Яны блішчаць, аблітыя праменнямі сонца. Яны мітусяцца ў вачах, падымаюцца ўверх, падаюць уніз, на момант знікаюць у грэбнях хваль і зноў з'яўляюцца на паверхні.

Што гэта за рыбы? **Лятучыя еўрапейкі**,—так называюцца гэтыя рыбы. А што гэта за птушкі ўюцца над імі? Гэта марскія чайкі. Яны кормяцца рыбай і ловяць іх, як толькі каторая пакажацца на паверхні.

А што гэта за круглыя невялічкія рыбкі, цела якіх пакрыта ўпоперак і ўздоўж палоскамі?

Гэта—**шчацінazуб**. У іх верхні плаўнік зубчаты, як піла.

А вось рыба — **чырвоная крылатка**. Чаму яна называецца так? Бо яна, замест бакавых плаўнікаў, мае чырвоныя крыллі.

А што гэта за рыба з такім доўгім, як шабля, носам? Гэта і ёсць—**рыба-шабля**. Яна—страшэнны драпежнік для іншых марскіх стварэнняў. Яна



Рапель-рыба.

вырастае да 3 метраў даўжынёй і важыць да 200 кіло. Сваім носам яна прабівае наскрозь іншых рыб і потым глытае іх. Гэта рыба можа прабіць нават кіта.

А вось рыба — хірург. Чаму хірург? Можа яна робіць аперацыі рыбам? Не! Яе цела пакрыта такімі вострымі іголкамі, што даволі толькі дакрануцца да гэтай рыбы, каб параніць сабе цела. І раны гэтыя зажываюць не скора. Іголкі служаць абаронай гэтай маленькай рыбе ад іншых дужых драпежнікаў.

Дзіўныя рыбы бываюць у моры! Паглядзіце на гэту, на лягву-рыбалова. Чаму называецца яна так? Таму, што яна часта ляжыць, зарыўшыся ў іл. Распусціўшы свае валасы, што тырчаць на галаве, яна заманьвае да сябе іншых рыб. Як толькі якаянебудзь рыба падплыве блізка, лягва нападае на яе і хапае сваім вялікім ротам. Вось чаму яе называюць—лягва-рыбалоў.

Рыбы-калючкі. У іх на спіных плаўніках колкія іголкі. Яны вольна плаваюць у моры і не баяцца драпежнікаў, бо іголкі ім служаць абаронай.

А вось рыба—рамень. Яе цела доўгае, шырокае і тонкае, як сапраўдны рамень. Гэта рыба жыве ў акіяне і вырастае, часамі, да 6 метраў даўжынёй.

Рыба-канёк. Хіба можна сказаць, што гэта рыба? Ні ў якім разе. Хутчэй, гэта нейкі шкілет, падобны на конскі. А між тым, гэтых рыб вельмі шмат у моры. Сваімі хвастамі яны прычэпліваюцца да раслін на марскім дне і там знаходзяць сабе спажыву.

Рыба-молат. Чаму яна так завецца? Бо яна падобна на молат.

Гэта вялікая рыба, даўжынёю бывае да 4-х метраў, часта важыць да 300 кіло.



Канёк-рыба.

Якіх толькі рыб не бывае ў моры! Зараз вядома 9.000 відаў розных рыб. Але ўсе яны жывуць адным жыццём. Буйныя знішчаюць больш меншых, меншыя яшчэ меншых і так да самых малых. Але і гэтыя харчуюцца таксама жывымі стварэннямі — чарвякамі, жукамі, вусенямі і рознымі казюлькамі.

М. ЦЭЛЕШ.

Цана 30 кап.





# Акварыум

Вазьміце шкляную банку невысокую, але шыракаватую. На дно насыпце на сантыметр прамытага рачнога пяску. Прамывайце пясок так: налівайце ў яго ваду, пабоўтайце і злівайце мутную ваду. Гэтак зрабіце некалькі раз, пакуль пясок не стане чыстым.

У пясок пасадзіце некалькі кусцікаў вадзяных раслін. Яны будуць вылучаць з сябе патрэбнае для рыб паветра—вадарод.

Вось і гатоў акварыум. Цяпер асталося засяліць яго. Апрача рыбак, у акварыуме карысна



трымаць і гадаваць апалонікаў, а таксама розных іншых рачных казявак.

Калі на дне акварыума ёсць расліны, дык ваду можна мяняць рэдка—раз у месяц.



# Парашут

Вазьмі кавалачак папяроснай паперы, зрабі з яго квадрат. Гэты квадрат складзі на дзве часткі (глядзі мал. 1), потым яшчэ на дзве (мал. 2). Цяпер складзі наўскасяк (мал. 3) і падзялі адзін з кутоў на дзве роўныя часткі (мал. 4). Затым абрэж канец, як гэта паказана на мал. 5.

Разгарні паперу і будзеш мець зубчасты кружочак (мал. 6). Цяпер пракалі шпількаю дзірачку ў кожным зубку і зацягні ў кожную дзірачку тоненькую нітку (усе ніткі вазьмі аднолькавай даўжыні).

Далей, вазьмі кіёчак, каб ён быў удвое даўжэй за квадрат. Кіёчак гэты прасунь праз сярэдзіну паперы. Зверху паперу прыклей да кіёчка, а знізу прывяжы ўсе ніткі да кійка ў адным месцы (глядзі мал. 7).

Парашут зроблен. Цяпер, калі падкінеш гэты парашут у паветра, або кінеш яго з вышыні, папера раскрыецца, як парасон, і парашут будзе доўга лятаць у паветры.

Сапраўдныя парашуты ўжываюцца для таго, каб чалавек мог паволі спусціцца на зямлю з самалёта.



## Сабака з кавалачкаў паперы

Вы бачыце малюнак — сабака вые. Цяпер паспрабуйце самі зложыць з намалёваных кавалачкаў паперы такога-ж сабаку.



ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА". Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 542. 10.460 экз. Мінгарліт № 2635.